№ 70 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 70 (162). Год II. Вільня, 31 жніўня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Пад Дзьвінскам і ля Смаргоні.

### 30 жніўня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Ля Іпра — сільны агонь. Сільнае англіцкае наступленьне на паўночным усходзі ад Вэльт'е сягоньня раніцай зломлено з вялікімі стратамі агнём і штыкамі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Шмэн дэ Дам адбіты наступленьня французоў на палудзенным усходзі ад Сэрні. Пад Вэрдэнам у вечары сільная артылерыйская бітва.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Пад Дзьвінскам і ля Смаргоні артылерыйскі агонь значна крапчэў.

На палудзенным заходзі ад Луцка, ля Тарнополя і на Збручу расейская артылерыя працавала жывей, чым звычайна.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* На поўдні ад Окна наступленьне румыноў адбіто.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Сільным ударам ворагі выкінуты з Ірэсті і адціснуты ў даліне Сусіта. Узяты 300 палонных, шмат кулемётаў і вазоў. Вострые атакі ворагоў пры Монцэлюі нічога не дайшлі.

---

ВЕНА 29.VIII.—вечарам. **Італьянскі тэатр:** Бітвы на Ізонцо трываюць далей. Ворагі нідзе не дайшлі ўдачы. Італьянскіе лятуны ізноў скінулі бомбы на Трыэст. Учынена даволі значная шкода.

БРУССЭЛЬ. Імперскі канцлер заявіў дэпутацыі флямандзкай рады, што пагляд нямецкаго ураду на флямандзкі народ, высказаны 3 марца, не змяніўся.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Соцыялістычная конфэрэнцыя саюзьнікоў 55-цю галасамі проці 4-ох адкінула прэдлажэньне не вясьці ніякіх перэгавораў з нямецкімі дэпутатамі, пакуль Нямеччына не ачысьціць усіх занятых зямель.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Соцыялістычная конфэрэнцыя саюзьнікоў закрылася. Штокгольмская сэкцыя радзіла, каб у конфэрэнцыі ў Штокгольме прынялі ўчасьце ўсе аддзелы работніцкіх соцыялістычных саюзоў. У справе аб ваенных мэтах не дайшлі згоды. Прынята рэзолюцыя аб утварэньні пастаяннай камісіі дзеля падгатоўкі новай конфэрэнцыі саюзьніцкіх старон. У гэтай камісіі будуць заседаць па 2 дэпутаты ад кожнаго аддзелу.

ЛОНДОН. Ня гледзячы на тое, што заседаньня соцыялістычнай конфэрэнцыі адбываюцца патайна, ходзяць чуткі аб рэзкай нязгодлівасьці. Францускіе, расейскіе і італьянскіе соцыялісты падалі аднародные прэдлажэньня аб міры.

ШТОКГОЛЬМ. Сход скандынаўскіх транспортных работнікоў рэзка асудзіў прынятую у Англіі формулу утварэньня новай інтэрнацыональнай організацыі матросаў, выключаючы цэнтральные дзержавы.

РЫМ. Прэм'ер-міністру пададзена пэтыцыя зрабіць скоры і трывалы мір с подпісамі больш за 500,000 душ—чыноўнікоў і членоў работніцкіх саюзоў.

ЖЭНЕВА. Маніфэст с подпісамі массы выдатных людзей Аргентыны жадае міра.

ВАШЫНГТОН. Папескі нунцій Бонсано заявіў, што Папеж пераконан, што у прыпадку дачэснаго замірэньня прыйдзе сам сабой канец вайны, бо ніхто больш не асьмеліцца нанова падняць аружжэ.

ТОКІО. Міністэрство урадова апавешчае, што яно ні ў якім прыпадку не пашле японскіх войск у Эуропу.

ШТОКГОЛЬМ. У начы на 25 жніўня кадэты і акцябрысты адбылі ў Маскве тайную нараду. Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. заседаў у тым жэ часі. Цэрэтэлі заявіў, што прыгатаўляецца напасць на заваеваньня рэволюцыі. Работнікі павінны прыспасобіцца да абароны.

ЛЮГАНО. Пецярбурская цэнзура налажыла арэшт на цыркулярную тэлеграму цэнтральнай рады большэвікоў у правінцыальные гарады; ў ей было сказано, што ў Пецярбурзі узняліся вялікіе разрухі, каб скінуць урад і вярнуць рэволюцыі праўдзівую ўласць. Тэлеграма прызывала правінцыальные аддзелы ўраз жэ прыступіць да мобілізацыі іх сіл, каб аказаць паддзержку ў пачаўшымся змаганьні.

Маскоўскі нацыональны конгрэсс прыняў праект Корнілова не даваць падмогі сем'ям салдатоў, збунтаваўшыхся на Галіцкім фронці.

БЭРН. «Corr. d. Sera» даносіць с Пецярбурга, што адна з найважнейшых праяў у Расеі—гэта ўсё узрастаючая непрыязнь між казакамі і радай раб. і салд.

ГЭЛЬСІНГФОРС.(П.Т.А.). 29.VIII С прычыны назначэньня на сягодня адкрыцьця нанова фінляндзкаго сэйму расейскае войско заняло гмах сэйму. У горадзі спакойна. Рада раб. і салд. загадала задзержаць на караблёх флоцкі экіпаж.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). **Справа Сухомлінова.** Гэнэрал Вэрнандэр, б. памочнік Сухомлінова, заявіў, што ўжо цераз 4 месяцы пасьля пачатку вайны расейская армія ўжо ня мела снарадоў.

## Пасеў усходзіць.

У часі массовых народных рухоў гнеў народу выліваецца перш за ўсё проці тых, хто праз доўгіе гады безкарна крыўдзіў яго. У момэнт узрыву рэволюцыі прыпамінаюцца ўсе старые і новые крыўды,—і народны гнеў, здзержываўшыйся страхам цяжкой кары, выбухае ў самых вострых, часта дзікіх формах.

У асабліва вострай формі заўсёды выяўляўся ў Расеі «мужыцкі» рух проці паноў. Мы памятаем, як гарэлі панскіе двары ў часі рэволюцыі 1905 г., а гісторыя апаведае страшэнные рэчы аб бунтах Пугачова і іншых. А сколькі дзікіх сцэн далі казацкіе бунты, тапіўшые у крыві польскіх паноў за іх здзек над народам і тушэные палякамі безміласэрна крывёй украінскаго народу? Ды ўсё гэта толькі слабым эхам адбівалося ў Беларусі, і ў часі расейскіх аграрных разрухоў у пачатку нашаго сталецьця на зямлі Беларускай пагромы ў панскіх дварох былі вельмі рэдкі, і рух народны тут выяўляўся ў больш мірнай постаці—ў постаці сельска-гаспадарскіх забастовак, парубкі лесу і т. п.

Усё гэта само забой прыходзіць на думку, чытаючы ў польскіх газэтах («Dzien. Mińskі») апісаньня пагромаў польскіх паноў у Міншчыне, быўшых у канцы месяца чэрвеня старога стылю.

«Страшэнствы, якіе адбываліся 26—29 чэрвеня ст. ст., пераходзяць людзкае паняцьце. Паводлуг точных ведамасьцей, разгромлены сем двароў і фольваркоў. Пагром трывае».

Так пішэ паменёная газэта, даючы яркі абраз, як грамада салдатоў пад камандай прапаршчыка граміла двары Яна, Евы і Антона Скірмунтоў, Владыслава Завадзкаго, братоў Міхневічоў, кн. Друцкаго-Любэцкаго. Усё, што было тамака цэннаго, ламалі і рвалі на дробные кускі, выкідаючы праз вокны, пад каторымі стаялі селяне і дзялілі між сабой астаткі панскаго дабра. Але ня ў тым справа, што грамада салдатоў нет ведама якой нацыональнасьці нішчыла панскае дабро: гэта, як мы ўжо сказалі, натуральная праява народнаго бунту проці старой няволі. Справа ў тым становішчы, якое занялі беларускіе селяне—суседзі пагромленых польскіх паноў.

У тым спакою, з якім акалічные селяне прыгледаліся да нішчэньня збіранаго пакаленьнямі панскаго дабра, са страшэннай яркасьцю выявілося, якая пропасць аддзеляе беларускаго хлебароба ад пана—паляка. Ад вякоў жывучы побач—на аднэй зямлі, аддыхаючы тым жэ самым паветрам, церпючы уціск ад тагож царскаго самадзержавія, яны ня толькі не зближыліся, ня толькі не пачулі сябе грамадзянамі сынамі аднэй Бацькаўшчыны-Беларусі, а асталіся зусім чужымі адны адным. «Пан» за «мужыка» ніколі нідзе не заступаўся, а, наадварот, карыстаючыся сваім грамадзкім становішчэм, ухадзіў у хаўрус з маскоўскім чыноўнікам, з земскім начальнікам, са станавым, спраўнікам—ажно да «урядніка» і гэтае сваё сябраваньне з «уласьцю» стараўся выкарыстаць проці «мужыка». Пан паляк, хоць дзяды і прадзяды яго былі косць с косьці беларусы, аддяліўся зусім ад свайго народу і нацыональна: ён с пагардай аднасіўся да роднай мовы беларуса, называючы яе «мужыцкай» і ўкладаючы ў слова «мужык» самае паганае, нікчэмнае значэньне. Аб тым, каб дзяліцца с цёмным народам тэй высокай культурай, якой слушна ці няслушна пахваляецца тутэйшае польскае панство, ніхто с польскіх паноў у нас не падумаў: у найлепшым здарэньні «паненка з двара» вучыла дзяцей беларускіх чытаць «по польскему», каб яны маглі-бы ў касьцелі маліцца на польскай кніжцэ, хоць і не разумеючы слоў малітвы ў чужой мове. І гэтым «культурная» работа агранічывалася, забіваючы у беларускаго селаніна сьвядомасць яго нацыональнасьці, пачуцьцё нацыональнай гордасьці і гордасьці чэлавечай. І жылі гэтак праз доўгіе гады два зусім чужые сабе ўзаемна сьветы, с каторых адзін праводзіў сваё жыцьцё ў роскашы, ў культурнай атмосфэры, карыстаючы самалюбна з усіх здабыткоў цывілізацыі, а другі — ад калыскі да магілы бачыў толькі непасільную працу, уціск і безмяжовую пагарду ад тых, каго сваей працай карміў...

Якое-ж дзіва, што селяне, каторые ахвотне пасьпяшылі бы да двара на ратунак, калі-б на яго напалі звычайные грабежцы,—цяпер, бачучы праяву гневу аружнаго народу, не кранулі пальцэм дзеля зашчыты польскіх паноў, а нават самі прылажылі руку да нішчэньня панскаго дабра, забіраючы тое, што пакінула нішчучая рука збунтаваных салдатоў?

Старая гэта, але праўдзівая прыказка, каторую знаюць усе народы: «што пасееш, тое пажнеш». Атручэные плады прынёс пасеў нацыональнай і клясовай пагарды, каторую гэтак ярка выяўляло польскае панство у адносінах да беларускаго народу на яго ўласнай зямлі...

Г. Б.

## Да еднасьці.

Гісторыя апаведае нам аб доўгіх вякох войн, каторые народы Эуропы і ўсяго сьвету вялі за веру. Жаданьне накінуць другім народам сваю веру было ў сярэдніх вякох гэткае сільнае, як у новых —жаданьне падчыніць іх сваей уласьці. Ды на рэлігійным грунці вяліся войны ня толькі між рожнымі народамі і краямі, але і між грамадзянамі аднэй старонкі, між сынамі аднаго народу, — і, бадай, ні адна ідэя не праліла гэтулькі крыві, як ідэя завясьці на ўсім сьвеці адну веру.

Прычына гэтаго—ў тым, што думку аб еднасьці веры праводзілі тады гвалтам, сілай аружжа прымушаючы слабейшых вызнаваць рэлігію дужэйшых. Але ў справах сумленьня людзкога гвалт, прынука — найгоршае аружжэ. І вось, пасьля многавекавога пэрыоду рэлігійных войн сьвет на парозі новых вякоў аказаўся раздзеленым на ешчэ большае чысло вер, чым у пачатку сярэдніх.

Раздзел на нялічэные рэлігіі і варагаваньне між людзьмі розных вер захавалося і да нашых дзён, але у аснові апошняго ляжыць тое, што ў сучасных дзержавах ня ўсе веры карыстаюць з роўных правоў: найчасьцей адна рэлігія лічыцца пануючай—гасударственай і карыстае з аграмадных прывілеёў перад другімі. Найбольш яркі прыклад гэтаго станавіла старая самадзержаўная Расея, ў каторай с поўні правоў карыстало толькі праваславіе, а вера каталіцкая, жыдоўская, пратэстанцкая, магамэтанская і іншые перэнасілі уціск і гвалты са стараны гасударственай уласьці.

Разумеючы, што астаткі рэлігійнай ненавісьці між людзьмі паддзержываюцца дагэтуль няроўнасьцю правоў розных вер, сучасная дэмокрація бачыць толькі адну дарогу да збратаньня рожнаверцоў: гэта — зраўнаваньне правоў усіх вер і скасаваньне ўселякіх прывілеёў „гасударственай“ веры. У Франціі дэмократычные элемэнты дайшлі таго, што тамака касьцёл зусім аддзелен ад гасударства і справа веры прызнана за прыватную справу сумленьня кожнаго чэлавека.

Поруч з гэтым дэмократычным рухам да зніштажэньня асновы рэгілійнай ненавісьці між людзьмі выяўляецца другі рух, каторы шукае развязкі гэтай балючай справы на грунці збліжэньня розных хрысьціянскіх рэлігій. Найбольш выдатны прэдстаўнік гетаго кірунку — уніяцкі мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі. Сваю ідэю ён высказываў ужо даўно, дабіваючыся перш за ўсё паваротy уніі на Беларусі і расейскай Украіне. З гэтай мэтай ён за некольκі гадоў перад вайной патайна прыежджаў са Львова на Беларусь дзеля нарад з беларускімі грамядзкімі дзеячамі і ў Пецярбург ды Маскву. Цяпер, выпушчэны з расейскаго палону, мітрапаліт Шэптыцкі прыступіў з новай энэргіей да працы дзеля сваей ідэі і з гэтай мэтай маніўся паехаць у Рым.

Але італьянскі урад, баючыся, што мітрапаліт можэ выкарыстаць сваю падарожу дзеля мірнай палітыкі, не даў яму пазваленьня на ўезд у Італію, пазываючыся на тое, што ён — падданы варожай дзержавы, Аўстрыі.

Будучы ў сваей падарожы ў нэўтральнай Швайцарыі, мітрапаліт Шэптыцкі меў цікавую гутарку з рэдактарам газэты «Journal de Geneve». У гэтай гутарцы ён заявіў, што ніякай палітыкай занімацца ня думаў, а на сэрцы ў яго ляжыць ідэя збліжэньня усходняго і заходняго касьцёлаў. Пры гэтым ён не абмежываецца толькі рэлігійнымі справамі украінцоў і беларусоў на тых землях Расеі, дзе уніяцкі касьцёл уціскалі старые валадары, але абнімае і справу з'еднаньня ўсіх хрысьціянскіх касьцёлаў на сьвеці, асабліваж касьцёлу каталіцкаго с праваслаўнаю цэрквою. Дзеля гэтай задачы найбольш адпаведае выступленьне цэркві уніяцкай.

Якой бы дарогай людзі ні шлі да таго, каб палажыць канец усім сваркам і ненавісьці між людзьмі на грунці рожніцы веры, кожную дарогу трэба лічыць добрай, абы толькі яна не была аснована на гвалце над сумленьнем людзей і на прынуцэ. З гэтай прычыны і работа мітрапаліта Шэптыцкаго павінна знайсьці належную ацэнку у ўсіх тых, хто шукае развязкі рэлігійнаго пытаньня на грунці злучэньня касьцёлаў.

*С. М.*

## У Вільні і ваколіцах.

### Інструкція аб зборах у местовым павеці Вільні.

На моцы § 1 ц. I загада П. Oberbefehlshaber'a Ost аб зборы аплат і пабораў з 26 лютаго 1916 г. і на моцы пазваленьня П. Начальніка Militärverwaltung'a Litauen з 22. 7. 16 для местоваго павету Вільні выдаецца ніжэйпісаная інструкція аб зборах:

§ 1.

За карыстаньне з вады з местоваго вадаправоду і ужываньне вадамероў трэба плаціць:

за першые 100 000 вёдзер за чверць году—60 фэн. за 100 вёдзер
за другіе „ —56 „ „ „ „
за трэйціе „ —52 „ „ „ „
за чацьвёртые 48 „ „ „ „
за пятые „ —44 „ „ „ „
за далейшые—40 „ „ „ „

§ 2.

Разрахунак за ужытую ваду робіцца паводлуг паказу вадамера. Гаспадару дому падаецца рахунак за кожную чверць году. Належные грошы павінны быць заплочэны ў 10 дзён пасьля падачы рахунку у Stadtkreisamtskasse.

§ 3.

За ужываньне пастаўленаго местам вадамера, за ачыстку яго, папраўку і т. д. гаспадар дому павінен разам с платай за ваду за кожную чверць году плаціць:

за вадамер 10 міл. у разр.—м. 2,50
„ „ 15 „ „ „ 3,25
„ „ 20 „ „ „ 4,00
„ „ 25 „ „ „ 5,25
„ „ 30 „ „ „ 6,50
„ „ 40 „ „ „ 7,75
„ „ 50 „ „ „ 9,00
„ „ 75 „ „ „ 13,00
„ „ 100 „ „ „ 21,00

§ 4.

Грошы трэба плаціць у Stadtkreisamtskasse.

§ 5.

Гэта інструкція ўступае ў сілу ад дня яе апавешчэньня. Інструкція аб зборах за ваду, абязываўшая дагэтуль, с таго-ж дня губляе сілу.

Вільня, 25 жніўня 1917 г.

Der Stadthauptmann
**Pauly**.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэатура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 26—27 | + 23° | + 10° |
| 27—28 | + 22° | + 11° |
| 28—29 | + 21° | + 8,5° |

## З усяго Краю.

### Аб нашым Краю.

БЭРЛІН. 28 жніўня глаўная камісія Рэйхстагу на закрытым заседаньні мела гутарку аб адміністрацыі Літвы і Курляндзіі. Пры гэтым былі міністры Гэльффэріх, ф. Кюльманн, Вальрафф і ф. Штэйн.

### Змаганьне за школы.

НАВАГРУДАК. У жніўню. (*Ад нашаго карэсп.*).

З якімі труднасьцямі прыходзіцца бароцца нашаму народу, каб дабіцца свайго бязспорнаго права, — гэта паказвае змаганьне за школу, узварушыўшае нашэ место. Тут бязспорна выявіўся школьны крызіс. С таго часу, як место занялі немцы, значыць, ад другой паловы лета 1915 году акуратнае школьнае жыцьцё доўга не магло наладзіцца с прычыны недастачы школьных кніжэк. Дзеці аставаліся без навукі, і развіцьце іх задзержывалося. Нямецкіе ўласьці, добра разумеючы патрэбу школ, стараюцца с падмогай вучыцельскіх сіл паддзержаць ахвоту да развіцьця. Пры гэтым яны трымаюцца пагляду, што нельга дапускаць, каб адна нацыональнасць ўрывалася ў сфэру другой. У нашым месьці варункі зусім ясные: 84% беларусоў, 12.3% жыдоў, 1,7% палякоў, ды, ня лічучы счэзнуўшых цяпер расейцоў, невялікае чысло немцоў і магамэтан, каторые становяць тут найвялікшую ў Літве колонію. Гэта—зусім правільны абраз, аснованы на статыстыцэ ў нашым горадзі з апошніх гадоў. Значыць, і дзеля ладжэньня школ дарога зусім выразна. Найбольш патрэбны беларускіе школы. Гэтак скажэ кожын, хто ўмее правільна думаць,— апрыч палякоў, каторые ня лічацца с фактамі, а ўсюды ў нашым краю шукаюць способоў дзеля пашырэньня сваей нацыональнасьці. З рухавасьцю, з якой яны заўсёды даходзяць сваіх нацыональных мэт, яны і ў Навагрудку стараліся выкарыстаць недастачу школ, каб захапіць у свае рукі школьную справу. І вось яны наладзілі «Навагрудзкі саюз дзеля помачы хрысьціянам і магамэтанам». Згодне са сваім нявінным названьнем саюз гэты сперша і аказваў некаторую помач беднаму народу. Аднак, праўдзівая мэта яго кіравалася шмат вышэй. Скора са-

## Духоўные песьні.

(Гл. «Гоман» № 66—69).

### Старцы.

Пад словам «старэц» усюды ў Беларусі разумеецца чэлавек, прымушэный жыцьцём да горкай канечнасьці прасіць у міласэрных людзей кавалка буднаго хлеба — або для сябе асабіста, або для сваей няўздольнай сям'і. Гэта ня будзе стары, старшы ў хаце, родзе, грамадзе, як тое зусім натуральна трэбало-б разумець с самога слова: жоўтавалосы старэц, паморшчэная старуха, сухарукі, кульгавы муж, сьляпы дзяцюк, усякі блажный чэлавек і, ў канцы, круглалікіе, але пахмурные дзеці — ўсе аднакова называюцца «старцамі», калі выцягаюць рукі па багабойны датак, — кавалак хлеба. Адносна бедна адзетые, ня менш бедна накормленые, с торбай на горбе, неразлучным кійком-пугай у руках і славамі «падарыце Хрыста дзеля» на вуснах, — старцы скора могуць быць адрожнены і сярод многалюднаго натоўпу і ў адзіночку, — чаму не мала памагае нейкае кляймо «старэцкай» адасобленасьці: да «старца» падходзяць на самы кароткі час, каб даць «дар», з ім гавораць толькі ў межах таго, за чыю «душаньку» даецца дарэньне.

Хто такі «старэц», якой дарогай дайшоў ён да торбы, ці ёсць якая звязь у яго з людзьмі, аб гэтым ніхто не цікавіцца.

Разумеецца, тое самае у цэлку характэрызуе ня толькі старцоў на Беларусі: гэта так сама адносіцца да ўсіх іхніх сабратоў на ўсім Божым сьвеці. Прычынай убогасьці ўсюды бываюць: лень да працы, неспасобнасць працаваць с прычыны сьлепаты, калецтва, старасьці, хворасьці пры поўным бязродзтве, а праз гэта нестачу помачы са стараны. Але апрыч пералічэных прычын, вытвараючых старэцтво, у Беларусі ёсць ешчэ бяздонная крыніца старэцтва — гэта беднасць краю і аддзяленьне багацейшых станоў ад народу. Тут затрымаемся на чыста страўных, так сказаць, праявах гэтай беднасьці.

Каля сьв. Ільлі з маладога, яшчэ толькі што сьпеючаго жыта селянін пачынае пячы хлеб, бліны і варыць кашу, ужываючы пры гэтым ізноў такі чуць што сьпеўшые гародніны. Як гэта адбіваецца на згаладаўшымся жываце — усякаму ясна; але во што важна: нясьпелае жыто пры сушэньні трацiць добрую трэціну вагі і ня «спорыцца», бо да новаго хлеба німа ні мякіны, ні вотрыны, ні пялюхі і прыходзіцца яго есьці чыстым. Гэткім парадкам, пакуль дасьпеюць хлебные суррогаты і падспор'е, пры малым пасеве новае жыто зменшыцца на гэтулькі, што яго чуць стае на «семіны» і толькі крыху астаецца на «еміны». Але тут выручае ярына, бульба і мясо. Селянін сыт да Піліпаўскаго посту; з наступленьнем апошняго суздром астаецца на ярыне, якую перэедае за доўгі Калядны (Піліпаўскі) пост, так што ў мясаед ён ужо падбірае рэшткі емінай ярыны і скаромiны. Загаўляючыся на вялікі пост, селянін загаўляецца разам і на сытную ежу... да новаго хлеба! З усяго сказанаго відаць, што так званае «сыцьцё» беларускаго селяніна ня доўгае: пачынаючыся каля сьв. Ільлі, яно расьце да Піліпавак, чарадуецца с постам і ізноў уваскрэсае на Калядные сьвяткі і трацiцца у часе мясаеда. Тут ужо пачынаецца «паловый», «градовый», «пушный», адным словам мякінны хлеб — той самы, аб каторым дабрадушны беларус кажэ «па ім калі і чорт пабяжыць, дык безпрыменна нагу заскабіць». Але і гэткаго хлеба німа ў сыць, асабліва вясной, так што наш селянін іронізуе далей: «горэ мужыкова —ніразачку ён не наесцца досыць хлеба с беркай».

Сказанае аб сыцьці мае мейсцо у звыклые гады, калі міма прайшлі неураджаі, градабіцьця, упад на скаціну і іншые напасьці. Саўсім ня тое бывае, калі тое-ж жыцьцё падпадае пад ўплыў аднаго, або некольκіх нешчасьцяў: тут ужо ня можэ быць мовы аб сыцьці, а толькі клопат аб якім бы ні было пракорме; тут ужо німа

юз звярнуўся да нямецкай адміністрацыйнай уласьці с просьбай пазволіць яму залажыць у Навагрудку і шасьці іншых мейсцах польскіе школы і дзела гэтаго выпісаць з Вільні 10 вучыцелек.

Саюзу здавалося. што гэта зусім натуральна, каб у нашым горадзі былі толькі адны польскіе школы. Чамуж не беларускіе? Затым, што беларуская мова—„мужыцкая“, і беларусы нічога больш не жадаюць, як падняцца вышэй гэтаго свайго недастатку.

Калі-б нават гэтак было па праўдзі, дык ціж гэта ня сьведчыло-бы, што кожын беларус, катораму дораг яго народ, павінен усемі сіламі бароцца проці таго, каб выхаваньне маладзёжы ў польскім духу не павялічывало-бы гэтай ганебнай абмылкі. Але практыка зусім разбівае польскіе заверэньня: ўсюды ў нашым краю, дзе толькі былі адкрыты беларускіе школы, там шыбка узрастало число ахвочых да навукі дзяцей. І нямецкіе ўласьці зусім справядліва адмовіліся споўніць просьбу саюза, которы хацеў вясьці укрыта польскую палітыку. Наадварот: праектуецца пасланць у Навагрудак і ваколіцы яго некалькі скончыўшых навукі у Сьвіслачы беларускіх вучыцелёў. Выхаваньне маладзёжы павінно быць даручэно вучыцелём, каторые пастанавілі шчыра працаваць на карысць сваей нацыональнасьці.

---

КОСЕВІЧЫ, на Бярэзіне. Нямецкіе салдаты уладзілі тут дзеля забавы вялікае спортовае сьвято.

КОЎНА. Местовая управа купляе зерняты пладоў дзеля дабываньня алею. Само сабой, ня будуць купляцца зёрны груш, яблыкоў і іншые, ў якіх німа алею.

---

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

БЭРЛІН. Нямецкі офіцыоз «Nordd. Allg. Ztg.» пішэ с прычыны прамовы Керэнскаго на конгрэссі у Маскве:

«Керэнскій добра ведае, што яго заверэньня, бытцым Нямеччына хочэ накінуцца на расейскі народ і зніштожыць яго волю, нягодлівы с праўдай. «Вольны» расейскі народ водзіць за нос цяперашняя расейская ўласць гэтак сама, як вадзіў яго царскі рэжым. Керэнскій пачаў наступленьне на Галічыну проці рады Брусілова. Гэта і вызвало нямецкае контрнаступленьне. А за некалькі дзён перад адкрыцьцем конгрэссу Керэнскій загадаў расейскаму войску адступіць ад Аа і апавесьціў народу аб нямецкім наступленьні на паўночным фронці. Мова Керэнскаго—гэта выступленьне за вайну. Расейскі народ ня можэ ня ведаць, што Керэнскій адвярнуўся ад свайго мінулаго».

ЛОНДОН. «Times» даносіць з Масквы, што прамова Керэнскаго вызвала агульнае расчарованьне. Ен абмінуў знаменітую магчымасць зрабіць сільнае ўражэньне на папраўдзі расейскіе кругі.

У пачатку Конгрэссу рада раб. і салд. 364 галасамі проці 304 высказалася проці дэмонстрацыйнай забастоўкі і проці ўселякіх выступленьнёў супроць конгрэссу. Аднак, крайніе левые зрабіўшые немагчымым сазыў конгрэссу ў Пецярбурзі, памыкаліся зрабіць тоеж і ў Маскве. Конка, арсэналы, фабрыкі і заводы спынілі работу. Баставалі нават лякаі ў рэстаранах.

«Central News» даносіць з Масквы:

Керэнскій высказаўся проці сазыва устаноўчаго сходу ў часі вайны. Формальна ён адложэн на другі год. З міністэрствам жэ Керэнскій умовіўся, што аб долі Расеі будзе зроблена пастанова толькі пасьля канца вайны.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). 27 жніўня генэраліссімус Корнілов на конгрэссе ў Маскве сказаў між іншым:

«Паварот кары сьмерці і іншые загацы часьцю вылячылі армію ад страшэннай хваробы: развалу і неслухмянасьці. Мы утрацілі ўсю Галічыну, ўсю Буковіну і ўсе плады нашых апошніх пабед. Ворагі грозяць нашым ураджайным палудзенным губэрням. Яны стукаюцца ў дзьверы Рыгі, і, калі мы не утрымаем у сваіх руках узбярэжжа Рыжскаго заліва, дык дарога ў Пецярбург будзе адкрыта». Калі прэдложэные крокі будуць ураз жэ споўнены, дык Корнілов верыць, што будзе вернена старая расейская слава.

Апрыч некалькіх членаў рады раб. і салд. усе члены конгрэссу горача віталі гэту прамову. Адзін дэпутат I Думы сказаў, што старонка жадае работы на дэмократычных асновах, каторая ўмацавала бы асабістую баспечнасць і грамадзкую волю. Кожную думку аб сэпаратным міры трэба з абурэньнем адкінуць. Мір можна вітаць толькі тады, калі ён будзе рэзультатам не пабеды Нямаччыны, а трыумфу Расеі і яе саюзьнікоў.

Генэрал Каледін, гэтман донскіх казакоў, прачытаў заяву казацкіх войск, жадаючых далейшай вайны да аканчацельнай пабеды.

Правые віталі гэту заяву крыкамі браво і оплескамі, левые — сьвістам.

ШТОКГОЛЬМ. Ня толькі Керэнскій, але і Корнілов змяніўся за апошні час. Але пад той час, як Керэнскій пачаў патроху адступацца ад сваіх прынцыпоў дзеля дамаганьнёў саюзьнікоў ды з гэтай прычыны разышоўся з радай раб. і салд., с Корніловым здарылося наадварот: ён пайшоў на лево, і яго лічаць за галаву мірнаго руху. 17 жніўня ён падаў Керэнскаму мэморыал аб немагчымасьці і бязцэльнасьці далейшай вайны.

ПЕЦЯРБУРГ. С прычыны адкрыцьця маскоўскаго конгрэссу «Нов. Вр.» апісвае палажэньне Расеі самымі цёмнымі колерамі. Газэта пішэ: «Пасьля таго, як на поўдні палкі, кінуўшы аружжэ, уцяклі, немцы занялі новые апорные пункты на Курлядзкім узбярэжжы. У Фінляндзіі шырыцца паўстаньне. Мы павінны ждаць горшых бед. Прыяцелі немцоў заседаюць ня толькі ў украінскай радзе, але і ў фінлядзкім сэйме і ў усерасейскай радзе раб. і салд. Маскоўскі конгрэсс бачыць перад сабой абраз страшэннай руіны».

ШТОКГОЛЬМ. «Русская Воля» даносіць, што ў Фінляндзію с прычыны спадзеванаго адкрыцьця, ня гледзячы на забарону тымчасоваго ураду, фінляндзкаго сэйму послана кавалерыя і панцырные аўтомобілі. «Бірж. Вед.» пішуць, што у звязі с фінлядзкімі прыцадкамі выяўляецца рух у балтыцкім флоце.

МАСКВА. Расея вертаецца ўсё болей да первабытнаго стану заменнай таргоўлі. Селяне маскоўскай губэрні адмаўляюцца дастаўляць жыта за грошы і даюць яго толькі на замену за мануфактурные тавары. Астраханскіе рыбакі даюць жыхаром Ставрополя рыбу на замену за жыта і іншые сельскіе прадукты.

ПЕЦЯРБУРГ. **Справа Сухомлінова.** Сьведка генэрал Янушкевіч апісвае палажэньне расейскай арміі, астаўшайся без снарадаў і аружжа. Сухомлінов адмовіўся у часе вайны даваць заказы прыватным фабрыкам і заводам.

ПЕЦЯРБУРГ. Генэрал Велічко заявіў, што на Сухомліновым ляжыць глаўная віна за ўсе неўдачы расейскай арміі: ён абязброіў большую часць найлепшых расейскіх крэпасьцей, лічучы іх непатрэбнымі. Быўшаго цара нельга вінаваціць у ваенных неўдачах Расеі, бо ён на ўсё глядзеў вачыма Сухомлінова.

---

# З усяго сьвету.

ЦЮРЫХ. Газета «Neue Zur. Nachr.» даносіць з зусім пэўнай крыніцы, што пасьля спроб, трываўшых некалькі месяцоў, у Нямеччыне зроблено незвычайнае адкрыцьце дзеля страваваньня народу. У фабрыках ужо пачалі вырабляць новы пажыўны прадукт. Падробнасьці будуць апавешчэны ў найбліжэйшым часі.

БЭРЛІН. „Свабодная Камісія“ с прэдстаўнікоў нямецкаго ураду і 7 дэпутатоў Рэйхстагу разгледала на сваім першым заседаньні адказ на мірнае прэдлажэньне Папежа.

ЛОНДОН. Пад маршалкоўствам Гэндэрсона адкрылася міжнародная соцыалістычная работніцкая конфэрэнція саюзьнікоў, на каторую прыбылі 2 бэльгійцы, 4 расейцы, 10 французоў, 2 португальцы, 1 грэк, 45 англічан і 1 дэпутат ад палудзеннай Афрыкі. Будуць разбіраць гэткіе чатыры справы:

1, агульная заява аб вайне;
2, саюз народаў;
3, адбудова руін і экономічные пытаньня;
4, перамена тэрыторыяльных граніц.

ЛОНДОН. (В.Т.Б.). На соцыалістычнай конфэрэнціі саюзьнікоў Гэндэрсон заявіў што толькі пры ўзаемных уступках можэ настаць трывалы і пачэсны для абедзьвых

---

мейсца хлебным стадзіям, а адразу маецца справа с хлебам «які набяжыць».

Разам з недастаткам у ежы, ўсё іншае прыймае цёмные колеры і вядзе да павольнай утраты розных гаспадарскіх запасоў — сена, саломы, лёну, пянькі; ў сьлед за імі з'едаюцца: каравёнка, канінка і «кажаронка» с плеч. Далей ужо і есьці нечаго. Добра ешчэ, калі у сям'і знойдзецца падхадзячый у наймы пастух, або парабок, ды калі яны прыдатны людзям: тады на пакрыцьце штодзенных патрэб запрадаецца гэты жывы тавар. Німа тавару, ці німа патрэбы ў тавары, — астаецца адно: прычапіўшы торбу да горбу, пусьціць аднаго, або некалькіх членоў сям'і па міластыню Хрыстову. Гэткае бязвыхаднае палажэньне стварае прыпадковых старцоў.

**Прыпадковые старцы** паяўляюцца каля Піліпаўкі, безупынна бродзяць да Каляд, ізноў множацца ў мясаед і ізноў уменшаюцца ў Вялікі Пост, знікаючы ў меры набліжаньняся цепла і ратайскіх работ. У першые рады прыпадковых старцоў ўступаюць недалеткі. Адзетые ў шабадраную адзежку, с торбачкай пры боку, с кіёчкам у руках, увойдуць яны ў намечэную хату, стануць каля парога і, моўчкі, с патупленымі вочкамі, чакаюць дару. Больш навыторэны з іх часам зробіць знак крыжа і нават згаворыць «Воччу жэсю»; наадварот, прастачкі, або засаромленые не дагадаюцца нават шапку зняць. Гаспадары не пытаюцца, зачым прышлі, бо гэты само па сабе ачавіста. Калі «старцы» ня елі стравы, ім дадуць яе, не за сталом, ведама, а на лаве, каля парога; дадуць кавалак хлеба на дарогу, дадуць, можэ здарыцца, і крыху збожэйка. Апроч таго «старцам» безматкавічам падораць падхадзячую старызначку, а мягкасэрдные кабеты-маткі прывецяць старцоў ласкавым словам, спамянуць памершую іхню матку. Блізка с тэй-жэ маўклівасьцю выходзяць «старцы» з ветлаго дому і ідуць у другіе. А вечарам «кармільцы» прыносяць дамоў сабраные дары: некалькі кавалкоў мякіннаго хлеба і горстку—другую збожэйка. Ўсяму рада галадаючая сем'я.

Чым цяжэйшы год, тым болей прыпадковых старцоў ходзіць жабруючы, то ў адзіночку, то ў двая, асабліва браты і сёстры. У болей трудных варунках з недалеткамі выходзяць старыкі і старухі, каторых прыймаюць і надзеляюць аднакова з дзяцьмі. Ешчэ рэдзей, у самых трудных прыпадках, праводзяць старцоў-дзяцей іх родные маткі; але яны ня ўходзяць у хаты, а толькі кіруюць дзяцьмі і апекуюцца імі, туляючыся пазаўгольлю або за вясковай аколіцай.

Толькі не заўсёды і ня ўсюды прыпадковые „старцы“ сустрэчаюць ветлы прыём і дастаюць старэцкі дар. Зазлаваная гаспадыня часам накінецца на старцоў з гэткой ў прыбліжэньні дакорай: „Ці вас памжа ўзналіся! Цяперацька вы і самі ідзецё, а дзе вас у летку знайціць? Суньця змовіць вас дзеля паствы, дык і цаны—меры вам нетуці!..“ Прыстыжэные, с патупленымі, як можна ніжэй, галовамі ідуць старцы „абертасам“. Гэта самае бывае са „старцамі“ калі яны памылкова зайдуць у пагалелую хату. Тут ім скажуць каротка: „З Богам! сваіх семера пайшло!“

Калі гэтак нягодна павялося гаспадару, што за кавалкам хлеба ён выслаў дзяцей, то што ж павінны рабіць бабылі і бабылькі, якіе знойдуцца ў кожнай вёсцы і якіе павінны пракарміцца каля гаспадароў? Разумеецца, ім і Бог судзіў ісьці па старцах. У поўным складзе сваей сям'і, апрача хіба падрастаючай дачкі, бабылі і бабылькі ідуць у жэбры. Яны ня вельмі-то саромлівы, не патупяць сваіх галоў, як недалеткі. Ведаючы хату і нораў гаспадара, каторых яны знаюць і служаць розным паслухмянствам, бабылі і бабылькі умеюць то адбрэхацца, то падойдуць лёстачкамі. Дзеля гэтаго і дары гэткім старцам сыплюцца пэўней і спраўней, як недалеткам.

З наступленьнем веснавых ратайскіх работ і асабліва летняй прыпарніцы гэтые прыпадковые старцы як мятлой выметаюцца. Тагды астаюцца на вольным сьвеці адны пастаянные старцы.

(Далей будзе).

старон мір. Калі рэзолюцыі конфэрэнціі і не абязываюць урадоў, дык у кожным прыпадку яны будуць прызнаны ўсім сьветам за голас пролетарыату гэтых гасударств.

ЛОНДОН. Па ўсей Ірляндзіі адабралі ад сінн-фэйнэроў аружжэ. У 16 местох наложэн арэшт на вялікіе склады аружжа і снарадаў. Усіх учасьнікоў ваенных організацій сінн-фэйнэроў аддаюць пад ваенны суд.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**28.VIII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі раніцай зломлена англіцкая атака ля дарогі Іпр-Мэнін. Паабедзі, пасьля найсільнейшаго барабаннаго агня, англічане с падмогай панцырных аўтомобілёў і нізка ляцеўшых самалётаў атакавалі на фронці між Лянгмарк і дарогай Руле-Іпр. Усюды атакі адбіты. У вечары пасьля даведзенаго да найвышэйшай сілы агня началася другая атака на тым жэ фронці. Бітвы трывалі да ночы. Ворагі адбіты на ўсей лініі, апрыч вузкаго адрэзка на паўночным усходзі ад Фрэзенбэрга, дзе ворагі ўварваліся на нашы пазыціі. На заходзі ад Ле Катле адбіты новые англіцкіе наступленьня.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* У заходняй часьці Шмэн дэ Дам атака французоў адбіта. Пад Вэрдэнам — слабые бітвы. Вёска Бомон аканчацельна асталася ў нашых руках. На ўсходнім беразі Маасу артылерыйская бітва ізноў дайшла вялікай сілы. На заходзі ад дарогі Бомон-Вашэронвіль французы ў атаках мелі вельмі цяжкіе страты.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Ад Дзьвіны да Днестра, наагул, даволі ціха. На паўночным беразі Прута мы здабылі штурмам вяршыну Долцок і вёску Боян. Узяты больш 1000 палонных, 6 гармат, шмат кулемётаў.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* На поўначы ад Совэі, ў даліне Сусіты, перэважываючые чыслом ворагі адціснулі нас з нідаўна здабытых вяршын.

**29. VIII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Між Лянгмарк і Голебэк у вечары крапчэў агонь. Контратакай мы выкінулі англічан с пункту, на каторы яны ўварваліся на паўночным усходзі ад Фрэзэнбэрга.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На ўсходнім беразі Маасу між Бомон і Данлю — сільны агонь.

**Усходні тэатр:**

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* Наабапол даліны Ойтос узяты горные пазыціі з больш за 600 палонных. На поўначы ад Гроцэсті адбіты сільные контратакі.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На горных выступах на сярэднім цячэньні Сэрэта адабыта вёска Монцэлюі; бітва ішла за кожын дом. Разбітые ворагі адціснуты з некалькіх пазыцій наабапол Сусіты на паўночны заход. Яны утрацілі больш за 1000 палонных, 3 гарматы, 50 кулемётаў, ды мелі вялікіе крывавые страты.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 27. VIII. Італьянскі тэатр: Адзінадцатая баталія на Ізонцо трывае далей. Штурмы ворагоў кіраваліся проці плоскагорыя на поўначы ад Гэрцу, проці пазыціі на ўсходзі ад Аўца, проці Монтэ С. Габріэле і плоскагорыя Карст. Нашы войскі удзержаліся проці ўсіх атак.

Стрэламі з зямлі збіты 3 італьянскіе лятуны.

ВЕНА. 28.VIII. Італьянскі тэатр: Узмацаваные новымі сіламі італьянцы напружалі ўсе сілы, каб пашырыць свае ўдачы на плоскагорыі Баінсіцца—Гэйліг Гэйст. У вострых бітвах ручнымі гранатамі і штыкамі мы удзержаліся на ўсей лініі. У ваколіцах Штыльвсэр Іох у сьнягу і лядох нашы стральцы перэкалолі дружыну ворагоў і ўзялі 2 афіцэроў, 20 салдатоў, кулемёт і іншую дабычу.

ВЕНА. 29. VIII. Італьянскі тэатр: Адзінадцатая баталія на Ізонцо дайшла ўчора асаблівай сілы. Італьянскіе штурмы былі сільнейшые, чым у тые дні. Усе штурмы адбіты, — іншые пасьля вострай бітвы штыкамі. Уварваўшыеся на Монтэ С. Габріэле італьянцы былі выкінуты адтуль контратакай. Адзін штабовы афіцэр і 200 салдатоў узяты ў палон. Пры С. Марко ворагоў удалося адбіць толькі пасьля вострай штыкавой бітвы. Мы ўзялі палонных с 7 розных палкоў.

На Трыэст ворагі ізноў скінулі бомбы.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. 29. VIII. Мінуў год ад часу назначэньня Гіндэнбурга за начальніка генэральнаго штабу і Людэндорффа за першаго генэрал-кватэрмістра.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы лятучые эскадры у апошнім часі некольki разоў атакавалі востраў Эзэль. У Рыжскай затоцы затоплен бомбамі контрмінаносец тыпу „Новік". У часі контратакі расейскіх лятучых сіл адна варожая лятучая лодка была цяжка папсована і прымушэна спусьціцца. Нашы самалёты вярнуліся ўсе.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ізноў затапілі навакол Англіі 24.500 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак: 21.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіяне нашы падводные лодкі ізноў затапілі 18 000 тонн.








# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прысылаць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначэные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## Повесьці і апаведаньня прозай.

| | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|
| біс Гэдалі, Э. Ожэшко | — | 6 |
| біс Казка аб вадзе | — | 3 |
| Архіп і Лявонка, — М. Горкаго | — | 8 |
| У дому лепей.—Новіча | — | 4 |
| „Маладая Беларусь". Сэрыя І-я сшытак 1-шы | 1 | — |
| „Маладая Беларусь" „ „ сшыт. ІІ-гі | 1 | — |
| біс Зборнік «Нашай Нівы» № 1 | — | 15 |
| біс Зборнік «Нашай Нівы» № 2 | — | 20 |
| Амэрыканец—А. Новіча | — | 10 |
| Бярозка і др.—Ядвігіна Ш. | — | 5 |
| Беларускіе казкі | — | 5 |
| Хілібэртава пакута, Амф тэатрова | — | 5 |
| Апаведаньня—Тараса Гушчы | — | 10 |
| Abrazki — Zmitraka Biaduli | — | 15 |
| „Маладая Беларусь". Сэр. 1-шая. Сшытак 3 | 1 | — |
| Колядная пісанка 1913 г. | — | 10 |
| Нёмнаў дар—Тараса Гушчы | — | 6 |
| Тоўстае палена — Тараса Гушчы | — | 5 |
| Апаведаньня — Галубка | — | 6 |
| Праклёнышы — Л. Гвозда | — | 6 |
| Аб чым шэпацелі лісьця | — | 6 |
| Стражнік.—Сцёпк Бірыло | — | 10 |
| Васількі. Зборнік апаведаньннёў Ядвігіна Ш. | — | 30 |
| Родные зьявы. Зборнік апаведаньнёў. Т. Гушчы | — | 60 |
| Ня ўсе-ж разам ягомосьці!—Апаведаньне Лесіка | — | 5 |
| Сыгнал. Апаведаньне Гаршына | — | 5 |
| Якім бяздольны. Петры Беларуса | — | 10 |
| Рунь. Зборнік апаведаньнёў Максіма Гарэцкаго | — | 40 |
| Вялкодняя пісанка. Зборнік | — | 30 |

## Беларускіе тэатральные творы.

| | | |
|---|---|---|
| Хам. Абраз у 4 х дзеях, Э. Ожэшко | — | 70 |
| Сватаньне. Жарцік у 1-й дзеі, Чэхова | — | 25 |
| Мядзьведзь. Жарцік у 1-й дзеі, А. Чэхова | — | 30 |
| Міхалка. Камэдыя у 1 дзеі | — | 35 |
| Па рэвізіі. Абраз у 1 дзеі, Кропіўніцкаго | — | 35 |
| Пашыліся ў дурні. Жарт Кропіўніцкаго у 3-х дзеях | — | 60 |
| Як яны жаніліся. Жарт у 1 дзеі, А Володськаго | — | 30 |
| «Паўлінка», камэдыя у 2 дзеях, Я. Купалы | — | 75 |
| Снатворны мак. Сцэна для дзіцячых тэатроў | — | 10 |
| Betlejka | — | 5 |

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wallstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**

Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.